Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. | Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 24—(64). | Вільня, 30 чэрвеня 1928 году. | Год II.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісныя цэны: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $^1/_2$ — 65, за $^1/_4$—35, за $^1/_8$—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Першая матура.

26 чэрвеня 1928 году Віленская Беларуская Гімназія выпусьціла з сваіх сьценаў 10 чалавек матурыстаў, якія атрымалі першую матуру, адчыняючую ім доступ у вышэйшыя школы Польскае Рэспублікі.

Польская школьная ўлада ў асобе Куратара Віленскага Вучэбнага Вокругу вызначыла экзаменацыйную камісію на чале з прафэсарам Віленскага Унівэрсытэту Масоніусам, перад якою здавалі экзамен вучні Віленскай і Навагрудзкай гімназіяў. Экзамен адбыўся пабеларуску і ў выніку яго з 12 прыступаўшых да экзамену вучняў 10 з іх аказаліся прыгатаванымі да навукі ў вышэйшых школах.

З вялікай радасьцяй ад'значаем гэты факт, які зьяўляецца фактам над'звычайнае вагі для беларускага культурнага і грамадзкага жыцьця. Вынікі матуральнага экзамену ў Беларускай гімназіі вачавідна сьцьвярдзілі тое, што нападкі ворагаў беларускае сярэдняе школы былі беспадстаўныя, што ровень навучаньня зусім здавальняючы і беларускія гімназіі могуць даваць асьвету і выхаваньне сваім вучням зусім ня горш, чымся другія школы. Экзамен 1928 г. адчыніў для беларускае школы доступ да ад'даўна чаканага прызнаньня за ёю ўсіх правоў урадавае школы.

Але гэты экзамен 1928 г. мае яшчэ іншае значэньне. Ен паказвае, што вялікія ахвяры вучыцялёў, Т-ва Беларускае Школы і ўсяго грамадзянства, утрымаўшага гімназіі паміма непрызнаваньня за імі правоў, барацьба за гэтыя правы ў працягу 10-цёх гадоў аказаліся не бязмэтнымі. Беларуская сярэдняя школа адгэтуль ня будзе раскідаць сваіх вучняў па цэлым сьвеце, яны знайдуць месца ў высокіх школах Польшчы і будуць павялічваць рады культурнае інтэлігэнцыі беларускага народу, які чакае іх дзеля працы над паправай свайго лёсу. Адгэтуль ня будзе марнаваньня беларускае моладзі ў антымаральным і бязбожным С. С. С. Р-ы і ў забойчым для здароўя сялянскіх дзяцей дыме фабрычнае Прагі-Чэскае, дзе ўжо многа беларусаў страціла здароўе і жыцьцё.

Мы з вялікай радасьцяй ад'значым гэтую першую матуру, як вялікі крок на шляху паразуменьня паміж польскім народам і дзяржаўнасьцяй польскай і беларускім народам. Атрымаўшыя матуру беларускія вучні ня будуць кінуты ў абоймы дзікае прапаганды процiў польскае дзяржаўнасьці ў С. С. С. Р., бо яна ім прызнала правы грамадзянства ў вялікай сям'і вучнёўскае рэспублікі ўсяе моладзі польскіх вышэйшых школаў, як роўныя з роўнымі.

Адгэтуль жыцьцё і развой беларускіх гімназіяў забясьпечаны, бо яшчэ ахвотней пайдзе беларуская моладзь у свае школы, дзе спатыкае ня толькі родную і таварыскую апеку з боку выкладаўцаў вучыцялёў, але і магчымасьць здабыцьця асьветы і права да далейшае навукі ў польскіх вышэйшых школах. Хай гэты экзамен адклікнецца па ўсёй Беларусі тут і на Ўсходзе, хай бела-

рускае грамадзянства яшчэ цяплей адняcецца да гэтае кузьні свайго адраджэньня.

Усе, хто патрудзіўся каля ўтварэньня экзаменацыйнае камісіі і першае матуры з правамі для беларускіх вучняў, аказалі вялікую паслугу адраджэньню беларускага народу і зьліжэньню яго з братнім польскім народам і яго інтарэсамі.

## Трагэдыя Югаславіі.

Перад некалькімі днямі тэлеграмы разьясьлі па цэлым сьвеце весткі аб забойстве двух паслоў у югаславянскім парлямэнце. Забойцам быў таксама пасол. Забітымі і раненымі былі паслы-харваты. Шмат хто цікавіцца аб прычынах так вострай барацьбы, якая давяла да такіх трагічных выпадкаў.

Перш за ўсё трэба сказаць некалькі слоў аб самой Югаславіі.

Югаславія ў такой форме, як цяпер, паўстала па вялікай вайне. Перад вайной была Сэрбія, Чарнагорыя, а Харвацыя, якая сяньня ўваходзіць у Югаславію, належала да Аўстрыі, вярней да Вэнгрыі.

Югаславію твораць сэрбы і харваты. Сэрбы і харваты гэта адзін славянскі народ. Аднак між імі вытварылася шмат розьніцаў. Як сэрбы так і харваты маюць свае асаблівасьці.

Найгалаўнейшай рожніцай ёсьць тое, што сэрбы праваслаўныя ужываюць кірыліцы, а харваты каталікі паслугоўваюцца лацінкай.

З гэтай прычыны істнуе між сэрбамі і харватамі рэлігійны антагонізм.

Культурна харваты таксама розьняцца ад сэрбаў. Харваты з вякоў прасякнулі культурай захаду, лацінскай, а сэрбы ўсходняй, візантыйскай.

Ня гледзячы на тое, што сэрбы ўжо перад вайной жылі незалежным жыцьцём, іх лятуценьнем было злучэньне сэрбаў і харватаў і стварэньне вялікай Сэрбіі, г. зн. Пан-Сэрбіі. Лятуцелі аб гэтым і сэрбы і харваты. Праўда, гэтыя апошнія пасьля не лятуцелі ужо аб вялікай Сэрбіі, баючыся можа вялікага ўплыву ў ёй сэрбаў, але гадзіліся на перабудову б. Аўстра-Вэнгрыі на Аўстра-Вэнгра-Сэрбію.

Такія пляны харватаў мелі староньнікаў між аўстрыйскімі палітыкамі. Староннікам такога пэратварэньня аўстрыяцкай монархіі быў і наступнік трону кн. Францішак-Фэрдынанд, які згінуў з рукі Сэрбаў у Сараеве 1914 г. Сэрбы не хацелі дапусьціць да адбудаваньня сэрбскай дзяржаўнасьці супольна з Аўстрыяй, яны імкнуліся адбудаваць вялікую, незалежную Сэрбію, далучыўшы да яе Босьнію, Гэрцагавіну і Чарнагорыю.

Ідэал сэрбаў — Вялікая Сэрбія, у склад якой уваходзілі-б усе сэрбы, ажыцьцявіўся. Па вайне паўстала якраз такая Сэрбія, аб якой сэрбы лятуцелі. Назвалі яе Югаславіяй, або праўдзівей — Каралеўства Сэрбаў, Харватаў і Славенцаў.

Аднак антоганізм сэрбска-харвацкі не памёр. Пры кожнай важнейшай дзяржаўнай справе антагонізм гэны выяўляецца.

Ад першай амаль хвіліны паўстаньня дзяржавы харваты перайшлі да опозыцыі і за малымі выняткамі змагаюцца амаль з усімі ўрадамі, каторыя творапь пераважна сэрбы.

Харваты ня могуць згадзіцца з цэнтралізмам, рэпрэзэнтантамі і староньнікамі якога зьяўляюцца сэрбы. Сэрбы з другога боку хацелі-б зглуміць опозыцыю, і каб асягнуць гэту мэту паслугоўваюцца ўсялякімі сродкамі.

Барацьба за правы харватаў давяла павадыра і народнага іх асілка Сьцяпана Радзіча да ўмовы з маскоўскім „крэстінтэрнам“. Пасьля гэтага Радзіч быў засуджаны за здраду краю, аднак наступіла каралеўская ласка, бо сэрбы перакаваліся, што гвалтоўнымі рэпрэсіямі мэты свае не асягнуць, а наадварот могуць выклікаць хатнюю вайну.

Наступіў мамэнт як-бы спакою. Павадыр сэрбаў, тварэц Югаславіі Пашыч яднаецца з павадыром харватаў Радзічам. Аднак не на доўга. Сэрбы не пазбыліся, ня выракліся думкі быць гаспадарамі ў цэлай Югаславіі, не выракліся цэнтралізму, і не хацелі думаць аб зрэалізаваньні дамаганьняў харватаў адносна дэцэнтралізацыі краю і ўвядзеньня малой аўтаноміі.

У гэтай барацьбе сэрбаў з харватамі, харваты бяз розьніцы пераканаmaking ньняў злучыліся і стварылі вялікі блёк дзьвех партыяў дэмакратычнай і сялянскай у парлямэнце.

Да найвастрэйшай барацьбы між сэрбамі і харватамі дайшло пры разгляданьні справы адносін з Італіяй. Сяньняшняя Італія, на чале якой стаіць Муссоліні, лятуцiць аб стварэньні магутнай дзяржавы накшталт старажытнага Рыма. Тым-

## Успаміны з Пэрсіі.

(Гл. № 23 „Б. Д.“).

Хамадан — калісь Экботана; на гэтым шэрым, цяпер ціхім горадзе ляжаць тысячы год. Гісторыя Пэрсіі сягае многіх стагодзьдзяў да Нараджэньня Хрыста. Памятнікі далёкай старыны яе ў Хамадане істнуюць і дагэтуль.

Вы і цяпер яшчэ можаце ўбачыць у ім разваліны трыўмфальнай брамы, праз якую ўяжджаў Аляксандар Македонскі, можаце ўбачыць грабніцу жыдоўскай царскай пары — Эстэркі і Мардохая. Над склепам, у каторым зложаны іх астаткі, жыды пабудавалі нядаўна капліцу. Пасярэдзіне яе, ў каменнай падлозе, круглае ваконца, зачыненае заслонай з кованай медзі. Праз гэнае ваконца відаць глыбокі цёмны склеп, пабудаваны тысячы год таму назад. Дзіўнае пачуцьцё агортвае чалавека, гледзячы на гэныя памяткі. Глыбокай старыной вее ад іх, старыной тых далёкіх часоў, калі гэны невялікі цяпер народ, раскінуты на абшарах Ірану і зьнішоўшы амаль не да ролі васала Англіі і Расеі, войскі каторых у 1916 годзе гаспадарылі на яе зямлі быццам ува ўласнай сваёй хаце, — быў калісьці валадаром усяго амаль вядомага тады сьвету.

І параўноўваючы цяперашні стан Пэрсіі з яе прошлым, здавалася, што гэныя Кіры, Ксэрксы, Піры, — аб якіх гаворыць гісторыя, гэта істоты нерэальныя, і зьяўляюцца нічым болей, як творам фантазіі.

часам у самой Італіі што раз горш. Насельніцтва душыцца ў граніцах дяржавы, яму трэба месца выхаду.

Такім натуральным месцам эміграцыі для італьянцаў магла-б быць Югаславія.

І вось Югаславія мае зацьвярдзіць дагавор з Італіяй, так званую канвэнцыю з Нэттую, якая дазваляла б эміграваць італьянцам у Югаславію. Адначасна ўсе ясна здаюць сабе справу з таго, што Муссоліні хоча апанаваць Адрыятыцкае мора, якое хоча зрабіць „сваім морам". Імпэрыялізм Муссоліняга заграмае перш за ўсё Югаславіі і харватам. Харваты кажуць, што зацьверджаньне дагавору з Італіяй раўнялася-б эканамічнай руіне Югаславіі.

І вось на такім падкладзе дайшло да крывавай трагэдыі, якой было праліцьце крыві у югаславянскім парлямэнце. Трагэдыю гэту папярэдзіла заява аднага з павадыроў харватаў Прыблэвіча, зроблена, з трыбуны парлямэнту на цэлы сьвет „што Белград (Сэрбія) горш прыгнятае сягоньня харватай ніж перад вайной Будапэшт (Вэнгрыя). Не паддамося, казаў, мы, вольны харвацкі народ, бандзе паліцэйскіх, усілуючых нас зглуміць. Трагэдыя, ахвярамі якой былі забіты два пасльі-харваты і некалькі раненых, між іншым сам павадыр харватаў Сьцяпан Радзіч, ускалахнула ўсю Югаславію. Абурэньне сярод харватаў ня мае граніц. Толькі дзякуючы вялікаму ўмеру Радзіча, які заклікаў харватаў да спакою, не дайшло да паважных забурэньняў, хаця крывавыя дэманстрацыі мелі месца. І калі ў першых гадох незалежнага жыцьця харваты высоўвалі мінімальныя дамаганьні, цяпер яны пасунуліся далей. Ведама ўжо, чаго яны хочуць. Праграму сваіх дамаганьняў яны сфармулявалі ў маніфэстах. Дамаганьні гэтая менш-больш такія. 1) Падзяліць Югаславію на дэпартаманты, 2) загварантаваньне поўнай аўтаноміі харвацкім землям, 3) Увядзеньне ў раду міністраў харвацкіх міністраў, 4) Зьмена назову дзяржавы і т. д.

І ад дамаганьняў гэных харваты не адступяць. Сіла харватаў, якой выразам можа быць парлямэнцкае прадстаўніцтва, павялічаецца. Без вырашэньня справы хараатаў, без заспакаеньня іх дамаганьня не магчымы спакой у дзяржаве. А Югаславія спакою і ўнутраннай кансалідацыі патрэбуе больш, як хто другі. Мае суседа, які заўсёды будзе старацца паменшыць уплывы Югаславіі сярод балканскіх славянаў, які хоча падпарадкаваць сваім уплывам Балканы. Гэта Італія, сяньняшняя, фашыстоўская. Італія беспасярэдна пагражае Югаславіі. З гэтага поваду патрэбны Югаславіі спакой.

Другім ня менш важным повадам дзеля якога мусяць сэрбы з харватамі пагадзіцца і знайсьці спосаб дзеля мірнага жыцьця, гэта нічога іншага, як канечнасьць атрыманьня пазычкі. Югаславія патрабуе пазычкі дзеля адбудаваньня сваго эканамічнага жыцьця, але пакуль у краі нануюць замешкі, пакуль няма згоды, датуль амэрыканскія капіталістыя пазычкі не дадуць.

З гэтага вывад, што раней ці пазьней мусіць дайсьці да узаемнага і згоднага сужыцьця харватаў з сэрбамі. Харваты ад сваіх дамаганьняў не адступяць. Сэрбы дзеля дабра дзяржавы будуць муселі зрэзыгнаваць з свайго становішча адзінага гаспадара краю, дадуць харватам аўтаномію, а нават яшчэ і больш...

Адно толькі трэба на гэтым месцы ад'значыць. Каб асягнуць свае дамаганьні харваты мусялі панясьці шмат ахвяр. Ахвяры мусялі паносіць і сэрбы. Барацьба, якую між сабою вялі, аслабляла дзяржаву. І ўрэшце мусялі сэрбы уступіць, бо ніякая сіла не адверне натуральнага бегу ракі. Шкода трудоў і ахвяр на барацьбу.

---

Югаславія павінна быць прыкладам шмат якім дзяржавам. Харваты ў поўнай меры мусяць быць прыкладам для іншых славянскіх народаў.

Дзяржава не павінна вясьці барацьбы з зьявішчамі так натуральнымі і непераможнымі, як працэс натуральнага адраджэньня народаў. Шкада ахвяраў на барацьбу. Трэба ўмець выкарыстаць гэты працэс, памагаючы яму, ідучы яму насустрэчу.

Тады ня будзе абапольных ахвяр, расчараваньняў і вельмі небеспечных наступстваў.

---

Але памяткі пярэчаць гэтаму.

Па гэных самых шляхох, па каторых цяпер праходзяць расейскія войскі, калісь ішлі гэныя людзі, вядучы сваіх нязьлічаных ваякаў на заваяваньне іншых народаў.

І ў шырокіх шэрых прасторах, залітых белым сьвятлом поўнага месяца, у змучанай галаве паўставалі вобразы мінулага, путаючыся з рэчаіснасьцю, пакуль крык ішака альбо, поўная некай тугі, песьня пэрса ня спыняла думак маіх.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У першы дзень свайго быцьця ў Хамадане, кінуўся мне ў вочы адзін абразок, які надоўга застанецца мне ў памяці, і які адначасна вельмі характарызуе быт пэрсаў.

Справа ў тым, што, шукаючы для сябе памешканьня, я мусіў зьвярнуцца да расейскага начальніка гарнізону ў Хамадане, каб адвёў мне кватэру.

Той пакіраваў мяне да пэрсыдзкай паліцыі. Калі я знайшоў урэшце будыніну, у каторай памяшчалася гэная ўстанова, і ўвайшоў у яе, дык убачыў гэткі абразок. У пакоі, які відаць іграў ролю прыёмнага, пры аднэй са сьценаў яго ляжала на зямлі калода. Калода гэта ўва ўсю даўжыню сваю была расшілована, так што складалася з дзьвюх паловак, паложаных адна на адну і на канцох замацованых замкамі.

На поўнай адлежнасьці адна ад аднэй уздоўж калоды было дваццаць дзірак. Пры калодзе гэнай на зямлі сядзела сем пэрсаў, ногі каторых былі ўсунуты ў гэныя дзіркі.

Гэта былі вязьні. У пакоіку была духата і страшэнна горача. На лавах каля сьценаў сядзелі людзі, відаць прыйшоўшыя таксама, як і я, па нейкіх справах. Бедныя вязьні абліваліся потам і з некім сумам і пакорай глядзелі на нас. Яны, відаць, былі змучаны, седзячы даўжэйшы час у аднэй пазыцы, ня маючы магчымасьці паварушыць нагамі, крэпка ўшчэмленымі ў дзірках калоды. Седзячы на зямлі яны толькі то пахіліліся ўперад, то адкідаліся назад, кладучыся ўва ўсю сваю даўжыню плячыма на зямлю. Ад часу да часу паліцэйскі падаваў ім вады і яны хціва пілі яе.

Некім жахам веяла ад гэтага вобразу. Гэта ня была толькі няволя — гэта была пытка, пытка выстаўленая на паказ людзей, якія, відаць, пры

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Ратаваньне здутае скаціны.

Часта, вельмі часта здараецца ў нашых вясковых гаспадароў, што не з сяго не з таго карова ці цялё здуецца (збабэнчыць, як гэта ў нас гавораць).

Гаспадар, ня ведаючы як ратаваць ад гэтага скаціну, наражаецца на яе страту. Ратунак гэты ў нашых гаспадароў агранічаны выключна да таго, што скаціну ганяюць, альбо, паваліўшы яе на зямлю, душаць ёй жывот, гэтым нібы выганяючы і выдушваючы газы з яе жывата. Спосаб зусім, папраўдзе сказаць, не рацыянальны, які часта, каб памагчы скаціне, зводзіць яе зусім з сьвету.

Настаець час вясны і лета, калі найболей здараецца гэтакіх выпадкаў на вёсцы, і маім заданьнем тутака якраз было-б прыйсьці сялянам з парадаю ратаваньня скаціны ад здуцьця. Перад тым аднак-жа як пачаць адразу пісаць пра ратунак ад здуцьця, хацелася-б яшчэ дадаць пару слоў аб тым, як і ад чаго здараецца гэтая надта небясьпечная хвароба. Вось-жа прычынаю здуцьця зьяўляюцца маладыя сакавістыя расьліны як: перад усім канюшына, люцэрна, эспарцэт, віка, потым: гічаньнё з бульбы, з буракоў, з капусты, маладое сьцябло збажовых расьлінаў і гэтак далей.

Асабліва здуцьцё ў кароў здараецца тады, як яны ў большай колькасьці панаядаюцца гэтых расьлінаў, альбо як кароў рана па расе альбо па інеі, ці па дажджы выганяюць пасьвіцца па маладых сакавістых расьлінах, альбо зноў-жа як карова, наеўшыся гэтакіх расьлінаў, хоць і ўдзень, дый нап'ецца вады.

Гэтая сакавістая паша, яшчэ не пераважаная, якая знаходзіцца ў пярэднім жалудку ці іначай у тэльбуху, пачынаець там шумець, вытвараючы шумавіны на падабенства мыдляных. З гэтых шумавінаў вытвараецца потым газ, які запаўняець сабою ўвесь жывот каровы і, не знаходзячы сабе выхаду, пачынаець расьпіраць скаціну.

З гэтага вынікаець, што калі скаціне адразу ня прыйсьці з дапамогаю, дык гэтыя газы, набраўшыся ў вялікай колькасьці, могуць зусім задушыць скаціну, а калі мы адразу ня прыйшлі з дапамогаю, дык далейшы ратунак можна рабіць толькі выключна пры помачы вэтэрынарных прыладаў і з дапамогаю лекара.

Прыкметы здуцьця больш менш гэткія: як толькі яно пачынаецца, дык скаціна перастаець есьці і жаваць жуваўку, робіцца не спакойнаю і маець выгляд перапуджанае. Калі здуцьце пабольшваецца і ў скаціны пачынаецца боль, дык тады яна кладзецца, зрываецца, б'ець нагамі па жываце і разгарачаецца; як здуцьця адразу ня спыніць, альбо ня даць адходу газаў, дык усё больш прысьпешна скаціна пачынаець сапсьці і нарэшце здыхаець.

З пачатку здуцьця ў скаціны ў левай пахвіне каля клуба пачынаець здувацца тэльбух ад газаў. А дзеля гэтага і мэта лекаў павінна быць такая, каб з тэльбуха выгнаць газы і спыніць там іх далейшае вытвараньне. Як толькі здуцьцё пачалося, трэба спрабаваць спыніць яго *аманякам*. З гэтаю мэтаю трэба ўзяць дзьве лыжкі аманяку, распусьціць яго ў літры вады і ўліць гэтую мешаніну з бутэлькі праз горла скаціне.

Гэтак сама як аманяк памагаець і вапна: адну лыжку ня *гашанае вапны* трэба распусьціць у літры вады і так сама ўліць з бутэлькі праз горла скаціне. На пачатках у некаторых выпадках памагаець і клізма з мыльнае вады.

---

выклі глядзець на гэнае зьявішча, і відаць ня бачылі ў ім нічога над'звычайнага, так сама, як і самыя вязьні, каторыя з нейкім тупым спакоем, бяз скаргі і нараканьня, прымалі гэту пытку, як некую заслужаную кару. Ці былі гэта засуджаныя судом нейкія важныя праступнікі, ці гэта былі проста затрыманыя да суда арыштанты, мне не ўдалося даведацца ад паліцэйскага, які вёў мяне да назначанае мне кватэры, проста не хацеў, відаць, гаварыць на гэтую тэму. Пазьней толькі я дазнаўся, што гэткае закоўваньне ў калодку — звычайнае зьявішча ў пэрсаў.

Закоўваюць і затрыманых да суда, закоўваюць за розныя праступкі адміністрацыйнага характару, за бойку, за неаплату даўгу. А суды? Есьць у Пэрсіі і суды, але кажуць людзі, што справа ў судзе вырашаецца вельмі проста: выйграваё той, хто дасьць судзьдзі больш „бэшкэт“ (падарак).

Наагул „бэшкэт“ у Пэрсіі іграе вялікую ролю. „Бэшкэт“ вырашае справу аб дзяржаўных пасадах, „бэшкэт“ вырашае справу ў судзе, „бэшкэт“ адчыняе доступ усюды.

„Бэшкэт“ бярэ шах, калі назначае міністраў, міністры бяруць „бэшкэт“ ад сваіх падуладных чыноўнікаў, тыя ад сваіх, і гэтак далей, а ўсё ўрэшце цягнуць з беднага народу, які стогне пад цяжарам падаткаў і выбіваецца з апошніх сілаў. Характарна, што бярэ „бэшкэт“ таксама і духавенства. Кажуць людзі, што да часу „мэджылісу“ (нешта кшталтам народнага прадстаўніцтва), чужынцы, каб дастаць якую-небудзь канцэсію, апрача „бэшкэту“ адпаведным міністрам і шаху, мусілі бязумоўна даваць „бэшкэт“ і духавенству. Не атрымаўшы „бэшкэту“ муллы (іхнія духоўныя асобы) тады падымаюць народ і стараюцца ўсялякімі спосабамі не дапусьціць да карыстаньня з канцэсіі. Духавенства магамэтанскае, як я і сам пераканаўся, мае вялікі ўплыў на пэрсідзкія масы і выкарыстваё яго, як мага, часта са шкодай для іх, і зьяўляецца вялікай палітычнай сілай.

На пяты дзень, пасьля прыезду ў Хамадан, спаткала мяне прыемная неспадзеўка. Пайшоўшы паглядзець Хамаданскі рынак я заблудзіўся ў ім і ня мог знайсьці дарогі да свае хаты. Сонца пачынала заходзіць, набліжаўся вечар. Хутка сьцямнела зусім, купцы пазачынялі свае крамкі, жыцьцё гораду паволі пачало ўціхаць, а я ўсё путаўся па крывых вуліцах Хамадану, зайшоўшы ў нейкі лябірынт вузенькіх, крывых вулачак. Я зачапляў па дарозе спатыканых пэрсаў; ня ведаючы тады зусім іх мовы я знакамі стараўся растлумачыць

Звычай, які часам здараецца ў нашых сялян, уліваць карове газу, ёсьць шкадлівы, дзеля таго, што газа мала памагаець, а як прыдзецца скаціну дарэзаць, дык усё мяса будзе сьмярдзець газаю.

Найлепшым спосабам ратунку будзе выпусканьне скаціне газаў з жывата пры помачы *зонда*. Ёсьць гэта гутапэрчавая трубка з лейкаватым заканчэньнем з абодвых канцоў. Каб найляпей уставіць здутай скаціне зонд, дык адзін з ратаўнічых падыймаець скаціне галаву дагары і так трымаець, другі-ж усоўваець асьцярожна зонд уздоўж языка да горла і пасуваець далей аж да тэльбуха, дзе сабраліся газы. Зонд трэба змазаць алеем, альбо непасоленым маслам, каб ляпей ён ішоў.

Перад гэтым трэба раштаміць скаціне рот, і каб яна яго ізноў не зашчаміла, ўставіць туды наўпапярок дошчачку з дзірачкаю па сярэдзіне, цераз які йдзе зонд (звычайна гэтая дошчачка заўсёды ёсьць пры зондзе і разам з ім купляецца). Як ужо зонд уведзены аж да тэльбуха, дык тады выймаем затычку і газы пачынаюць праз яго выходзіць на двор. Калі-б зонд захрас, дык яго прачышчаюць патычком. Каб зондам лепей было выпушчаць газы, дык трэба паставіць скаціну так, каб пярэднія ногі стаялі вышэй ад задніх, тады газы будуць павольна выходзіць праз зонд. Бо як скаціна будзець стаяць роўна, дык тады адзін канец (той што ў жываце) зонда ўпрэцца ў пашу, якая заткнець праход зонда.

Калі ўжо такім чынам газы выпушчаны, дык выймаем зонд, а скаціне праз горла ўліваем рошчыну аманяку, каб спыніць далейшы вытвар газаў? Гэта ёсьць больш менш спосаб ратаваньня здутае скаціны, якім сьмела можа апэраваць кожны руплівы гаспадар. Вэтэрынарыя ў надта трудных безнадзейных прыпадках знаець яшчэ спосаб праколваньня жывата ў скаціны і выпусканьня газаў цераз зробленую ў жываце дзірку. Гэтага спосабу ратунку я ня буду апісваць, дзеля таго, што ён так многа вымагаець практыкі і асьцярожнасьці, што абы каму за яго брацца ня можна. Бо ёсьць у каровы толькі адно мейсца ў якім можна зрабіць пракол у жываце, а каб знайсьці гэтае месца, дык трэба так добра і так дакладна вымяраць жывот каровы, што гэтага абы які чалавек зрабіць ня можаць, а трапіўшы і пракалоўшы жывот у другім месцы, напэўна зьвядзець скаціну з сьвету. У такіх безнадзейных выпадках ляпей будзе зьвярнуцца да вэтэрынарнага лекара. *Гаспадар.*

# ПЧАЛЯРСТВА.

### Штучны вывад матак.

У папярэднім сваім артыкуле я закрануў справу штучнага вываду матак; трэба ад'значыць, што для памыснага развою пчалярства справа гэта зьяўляецца надта важным пачынам. Тым часам справа штучнае гадоўлі матак ляжыць у нас на Беларусі зусім адлогам. Гэтае зьявішча можна толькі вытлумачыць адсталасьцю пчалярства, панекуль нават занядбаньнем гэтае даходнае і карыснае сельска-гаспадарчае галіны. У другіх краёх, а злашча ў Амэрыцы і Швайцарыі, дзе пчалярства ў сваім развоі дайшло да шчытовага пункту, дзе пачынены найдасканальшыя вынаходы ў гэтай галіне і справа штучнае гадоўлі матак даведзена да астатніх, проста здумяваючых вынікаў.

Трэба ад'значыць, што ў гэтых краёх ёсьць адумысныя гандлёва-прамысловыя таварыствы, якія займаюцца выключна штучным вывадам матак, паляпшаюць пароду і гатунак пчолак і гэтымі сваімі прадуктамі — штучна выведзенымі маткамі вядуць сапраўдны гандаль, знаходзячы вялікі рынак збыту і асягаючы з гэтага надта паважны даход.

---

ім, што заблудзіўся і шукаю дарогі, але, відаць, яны не разумелі мяне, альбо проста не хацелі зразумець, аднак ветліва слухалі, усьміхаліся, нешта казалі, размахвалі рукамі і йшлі сваёй дарогай.

І вось, калі ўрэшце, дайшоўшы да некага мосьціку, перакінутага праз русло высахшай у той час рэчкі, я ўжо сапраўды ня ведаў, што і рабіць, рантам на фоне падымаючагося з-па-за гораў сярпа месяца, вырысавалася фігура ў вопратцы расейскага афіцэра.

— Братоцкі, чакай! — акрыкнуў я гэную фігуру.

Фігура затрымалася і чакала, пакуль я падыйду.

— Я, Братоцкі, — сказала фігура, пільна прыглядаючыся да мяне, — з кім маю гонар гаварыць? — дапытваўся Братоцкі.

— Ці-ж не пазнаеш?—і тутакі я назваў сябе.

Братоцкі быў маім таварышам у Віленскай Гімназіі. Больш 18 год мы з ім ня бачыліся. І дагэтуль мне дзіўным здаецца, як гэта ўдалося мне ў цемры ночы, толькі пры слалым водбліску сярпа месяца, адразу распазнаць яго.

Праўда, гэта быў чалавек атлетычнай будовы, два аршыны і чатырнаццаць вяршкоў вышыні, шырокі ў плячох, і Братоцкага лёгка можна было распазнаць паміж іншых людзей, але праз 18 год, у гэткіх абставінах — гэта сапраўды дзіва.

Братоцкі ня меней ад мяне быў усьцешаны спаткаўшы ў маёй асобе свайго блізкага таварыша. Ен завёў мяне ў свой шпіталь, начальнікам катарага ён быў.

Ужо трэці месяц сядзеў ён у Хамадане і расказаў мне шмат цікавага аб тутэйшым жыцьці.

З таго часу мы часта сустракаліся з ім, і некалькі разоў вазіў я яго на сваім самаходзе ў Энзэлі.

Падчас аднае з гэных падарожаў было здарэньне, калі я вельмі заімпанаваў Братоцкаму і ўсёй сваёй камандзе.

Было гэта так. Было некалькі здарэньняў, калі курды нападалі на паасобных людзей расейскай арміі, адбіўшыхся ад сваіх атрадаў. У прыпадку ўдачы распраўляліся яны з імі вельмі коратка: забіралі вопратку, аружжа, каня і, пакінуўшы палонных, як іх матка нарадзіла, тут-жа вешалі.

Мне часта прыходзілася езьдзіць у далёкую падарожу ў кампаніі толькі двох-трох жаўнераў і дзеля гэтага ад магчымасьці гэткай напасьці ня было ніякай гваранты. Дзеля гэтага я наказваў

У нас, разумееццa, на першых пачатках гэтага зрабіць немагчыма, хоць-бы нават дзеля таго, што пчаляры нашыя, як-бы іх ляпей назваць, усе „дамарослыя", зусім ня прывыкшыя да якойбы ні было арганізованай працы (доказам чаго ёсьць таварыства „Пчала" з такім высілкам заложанае ў Вільні, бо надта патрэбнае і проста неабходнае для паступовага развою пчалярства, аднак-жа зусім не знайшоўшае зразуменьня і падтрыманьня з боку тых усіх, у чым інтарэсе гэта было зроблена). Дзеля гэтага, аб якім-колечы таварыстве па гадоўлі штучных матак пакуль што гэтак сама і мовы быць ня можа. Вот-жа гэты артыкул ёсьць толькі навукаю для тых усіх, хто схоча выводзіць маткі выключна для свайго ўласнага ўжытку, з мэтаю паправы, ўдасканаленьня гатунку пчол, зраўнаньня сілы пнёў і давядзеньня іх да найлепшага стану падчас багатага медабраньня, бо сіла пня залежыць выключна ад добрае плоднае маткі. Справу штучнага вываду матак я закрануў і нават трохі апісаў у сваім папярэднім артыкуле, зазначыўшы там, што да гэтай мэты трэба выбраць два здаровыя моцныя вульлі на пасецы, з якіх у адным пачаць гадаваць выключна трутні, а ў другім змусіць пчолы да залажэньня якнайбольшага ліку матачнікаў, пры помачы адабраньня ад іх старое маткі тады, як у вульлі знаходзіцца дужа чарвы ўжо запячатаванае і пры помачы рабеньня па ніжніх краёх рамкі ямачак канусоваю палачкаю для закладаньня на гэтых месцах матачнікаў.

Да гэтага трэба яшчэ дадаць, што яечкі павінны паходзіць ад здаровае маткі добрага гатунку, — з гэтаю мэтаю трэба браць вулей якраз той, які ёсьць надта працавіты, маець добрую матку, ня надта аказваець ахвоту да раеньня і дзе пчолкі не ад'значаюцца злосьцю. Гэтыя ўсе маткі, якія выйдуць потым з нашых матачнікаў, павінны запладніцца трутнямі і якраз тымі, якія мы з гэтаю мэтаю гадуем у адумысным гэтак сама добрым і здаровым вульлі.

Па-за гэтым вульлём, які прызначаны на вывад трутняў, нідзе больш разводу іх не дапушчаем, ніштожачы іх дашчэнту. Калі-б, міма нашых стараньняў, дзе-небудзь на пасецы мы ўбачылі трутняў, дык гэтых ніштожыць ня можна, бо якраз гэта будуць трутні з нашага вульля, а пчолы надта любяць таварыства трутняў, дзеля гэтага гэтае прыемнасьці ня трэба іх пазбаўляць.

Калі гэтакім чынам у нас ужо ўсё падрыхтована, г. зн. калі мы ў нашым прызначаным вульлі маем патрэбны лік матачнікаў, а ў другім ізноў-жа вульлі патрэбны лік трутняў, дык тады прыступаем да далейшае работы. Матачнікі з нашага вульля забіраем на 12-ты ці на 13-ты дзень ад дня закладзінаў матачніка — на адзін альбо на два дні перад выхадам матак і ўмяшчаем іх у адумысных г. званых *вясельных* вулейчыках.

Гэтыя вясельныя вулейчыкі ёсьць ніштo іншае, як звычайная скрынка, адумысна зробленая для штучнага вываду матак. Скрынка гэта павінна мець удоўжкі 255 мілімэтраў, а ўшыркі 130 мілімэтраў, — гэтулькі-ж сама і вышыні. Сьценкі гэтае скрынкі павінны быць скрэплены настала, а дно і накрыўка астаюцца рухомымі, г. зн. настала не прымацоўваюцца. Унутры гэтая скрынка павінна быць разьдзелена на дзьве часткі каморкі ўпапярок; адна з гэтых камо-

---

жаўнерам і сам браў заўсёды ў гэткую падарожу вінтоўку. Сьмельчакі, каторым ня прыходзілася гэтак бадзяцца адным, як мне, каторыя можа дзеля таго і былі сьмелымі, што рухаліся ў дарогу цэлым атрадам, называлі нас панікёрамі. Да такіх сьмелых належаў і Братоцкі. І калі адзін раз зьбіраліся мы з ім у падарожу, убачыўшы, што я бяру з сабою вінтоўку, зажартаваў з мяне:

— Што, братко, — курдаў баішся?

— Чаму гэта думаеш, што баюся?

— А вінтоўка нашто?

— Вінтоўка? Я бачыш з яе арлоў страляю.

— Арлоў? — зацікавіўся Братоцкі, — як-жа ты іх гэта страляеш?

— А вось так і страляю; арол ляціць, а я ў яго бах! — і гатова!

— Ну, ну паглядзім, — расьсьмяяўся ён, не давяраючы, пакруціўшы галавою.

На другі дзень падарожы мінуўшы ўжо Мэнджыль і не даяждаючы да Імам-Задэ-Гашым спаткалі мы цэлую стаду арлоў сьцярвятнікаў, у ліку пяцёх, застыўшых у паднябесьсі на сваіх моцных крыльлях. Ад нас з зямлі яны выглядалі дробнымі пылінкамі занесенымі ў бязвоблачныя сінія прасторы.

— Ну, пакажы, брат, як гэта ты страляеш арлоў, — зьвярнуўся да мяне, міргнуўшы да шофэра, Братоцкі.

Я быў ня дрэнным стральцом, але страляць наляту куляй да арла, завешанага нада мною ў вышыні на адлежнасьці быць можа вярсты і болей — гэткай штукі я не прабаваў ніколі.

Але нічога ня зробіш. Я затрымаў самаход, дастаў вінтоўку, уціснуў у яе патрон, прыцэліўся і выстраліў. І на дзіва ня ўціхла яшчэ рэха выстралу, калі я ўбачыў, як пылінка, у якую я мэціўся, неяк захісталася ў паветры, і пачала падаць раптоўна ўніз, урэшце з шумам, ламаючы сукі, аграмадны арол-сьцярвятнік зваліўся ў купінку дрэваў і бахнуў урэшце на зямлю, аж яна застагнала, у адлеглясьці ня больш якіх дваццацёх шагоў ад нас.

Ня трэба казаць, як я быў эдзіўлены рэзультатамі свайго стрэлу. Але ня менш за мяне быў зьдзіўлены Братоцкі і мае жаўнеры. Яны глядзелі, высалапіўшы вочы і маўчалі.

— Вось дык штука, — урэшце адазваўся Братоцкі, — іш, які стралец, а я думаў — ты жартуеш!

— Глядзі, якія жарты. — Андрыянаў, прынясі арла, — наказаў я аднаму з жаўнераў.

Той хутка прынёс аграмадную птушку, з моцнымі тупымі капцюрамі, з вялізарнымі крыльлямі і моцным таксама тупым дзюбам, умацаваным на брыдкай галаве вісячай на голай, брудна-зеленаватага колеру шыі.

Куля прабіла грудзі арлу, з якіх яшчэ сачылася кроў.

З таго часу слава аб маім стрэле разышлася паміж жаўнераў і на мяне глядзелі, як на вялікага стральца.

І цяпер Братоцкі, каторага так сама, як і мяне, апчадзіла вайна, — хаця падчас адыходу расейскіх войскаў, ахопленых бальшавізмам, ён меў вельмі цяжкія хвіліны, — няраз сваім знаёмым расказваў аб гэным здарэньні.

*Дзядзька Пранук.*

(*Працяг будзе*).

рак меншая (30 мілімэтраў) служыць для складу жыўнасьці, другая большая (200 мілімэтраў) ёсьць ласьне гняздом, дзе выводзяцца маладыя маткі. У верхняй частцы перагародкі знаходзіцца праход, цераз які пчолы носяць ежу маладым маткам. Другая большая камора апрача агульнае накрыўкі над цэлым вулейчыкам, павінна мець сваю ўласную з тоняенькае фанернае дошчачкі накрыўку. У накрыўцы гэтай пасярэдзіне мусіць быць выразана дзірачка, якая пасьля затыкаецца коркам, да корка гэтага прымацоўваецца выразаны асьцярожна з кавалкам вузы матачнік. Трэба зацеміць, што на кожны матачнік трэба мець асобны вулейчык, бо дзьвёх матак у адным вульлі ніколі ня можна выводзіць; гэта паслужыла-б па іх выйсьці з матачнікаў да бойкі паміж імі, ў якой абедзьве маглі-б панясьці сьмерць, альбо пакалечыцца.

Цяпер, як запоўніць наш вулейчык пчоламі і ежаю? Вот-жа, што да ежы, дык кладзём яе выключна ў прызначаную дзеля гэтага каморку. З гэтаю мэтаю можна ўзяць адну рамку запячатаванага мёду, парэзаць яе на кавалкі і гэтыя кавалкі ўправіць ў адпаведнай велічыні рамачкі, з якіх са дзьве ці са тры трэба ўставіць у камору нашага вулейчыка, абліўшы перад гэтым усё яго нутро воскам, каб мёд ня мог выцячы на двор, прывабіць гэтым іншых пчолак і выклікаць рабунак.

Потым прыступаем да запаўненьня другое каморы пчолкамі. Трэба глядзець пры гэтым, каб да вулейчыка папаліся толькі выключна маладыя пчолкі. Каб гэтак сталася, дык пчолак найлепей трэба браць днём, калі ўсе старыя знаходзяцца ў полі. Маладыя пчолкі здольныя выраблянь большую колькасьць малачка і надта надаюцца дзеля гэтага да кармленьня.

Вулейчык запаўняем пчолкамі так, што бяром рамку, абсаджаную густа пчоламі, ставім яе над выхадам другое каморы нашага вулейчыка і асьцярожна мокрым крылом зьмятаем пчолы да вульля. Пры гэтай апэрацыі ніколі ня трэба паслугоўвацца дымам, каб не раздразьніць пчолак, бо тады яны паразьлятаюцца і вернуцца ізноў у свой стары вулей. Гэтакім чынам зьмяшчаем да нашага вулейчыка больш-менш са два літры пчолак.

Цяпер што да самага вырэзваньня матачніка, дык спосаб гэтае чыннасьці будзе наступны: з нашага вульля, у якім мы змусілі пчолак закласьці большы лік матачнікаў, выймаем рамку з гэтымі матачнікамі і асьцярожна вырэзваем адзін матачнік. З матачнікам разам павінна знаходзіцца і трошкі вузы.

Работа гэтая вымагаець надта вялікае асьцярожнасьці, дзеля таго, што ў ёй надта лёгка можна пашкодзіць матачнік, а ў ім і матку; дзеля гэтага трэба старацца вырэзваць матачнікі па адным, устаўляючы рамку назад у вулей. Гэтак сама, барані Бог, ня можна чапаць матачніка, каб ня прыціснуць унутры маткі, а выключна карыстацца тою вузаю, кавалачак якое вырэзваецца разам з матачнікам.

Як ужо маем выразаны гэтакім чынам матачнік, дык прымацоўваем яго растопленым воскам да корка, якім заткнута выразаная, у верхняй накрыўцы другое каморы, дзірачка. Па прымацаваньні, гэтую накрыўку ўмяшчаем на сваё месца. Як толькі мы гэта зробім, дык пчолкі зараз-жа густым клубком абсядуць матачнік і пачнуць яго абаграваць сабою, выседжваючы гэтым матку. Па некаторым часе пчолы ў нашым вулейчыку пачнуць нават рабіць вузу, а каб яны пры гэтым не павілі хвальшыва плястраў, трэба наклеіць да пакрыўкі пласткі штучнае вузы. Зараз-жа па дадзеньні матачніка добра ёсьць паставіць вулейчык у цяністым месцы, каб пчолы супакоіліся. Спробу, ці матка ўжо выклюнулася, робім на трэці дзень.

Па выхадзе маткі, устаўляем нашыя вулейчыкі ў поблізу таго вульля, дзе мы разводзілі трутні, глядзячы, каб яны ўсе былі пры гэтым заслонены перад сонечным скварам. Незадоўга па выхадзе маткі пастараюцца выляцець, абляцецца і злучыцца з трутнямі. Калі ўжо матка злучылася з трутнем і запладнілася, дык вулейчыкі можна папрымаць і паставіць на свае старыя месцы. Пазнаць-жа, ці матка ўжо запладнена можна надта лёгка па тым, што такая матка зараз-жа пачне ў сваім вулейчыку класьці яечкі. Цяпер яе можна ўзяць і даць у той вулей, у якім няма маткі, можна нават у гэтым вулейчыку павязьці яе на кірмаш і прадаць, альбо ізноў-жа можна нават пераслаць такі вулейчык з маткаю і з пчолкамі ў другі горад па пошце, закрыўшы пры гэтай перасылцы ўсе дзірачкі і ляток драцянымі сетачкамі. *Пчаляр.*

## Пагода і радыё.

Благая, халодная пагода, якая ўжо даўжэйшы час пануе на нашай бацькаўшчыне і прычыніўшая ўжо шмат шкоды нашым земляробам, вельмі іх непакоіць, бо калі гэткая пагода пастаіць яшчэ час даўжэйшы, то надзея на ўраджай, які і цяпер ужо можна прызнаць менш чым сярэднім, будзе яшчэ меншым. Дзеля гэтага ня дзіва, што занепакоенае гэнай пагодай, якой ня памятуюць найстарэйшыя людзі, сялянства нашае шукае прычыны гэтага зьявішча, і знаходзіць іх шмат. Аднак найбольш вінавацяць у гэнай пагодзе радыё. Яно выклікае бязустанныя дажджы, яно прыносіць нябываль ў гэты час холад, ад яго, паводлуг домак сялян, усё гэнае гора.

Дагэтуль вучоныя нажаль, ня могуць назваць прычыны гэткага стану пагоды і кожны з іх тлумачыць яе іначай. Але адно толькі напэўна можна сказаць, што найменш у пагодзе гэтай вінавата радыё. Найлепшым пацьвярджэньнем гэтага зьяўляецца тая акалічнасьць, што больш сотні год таму назад старонка нашая, паводлуг бясспрэчных даных, ужо перажывала гэткую пагоду. Перажывала яе тады, калі аб радыё ня было ні слуху ні духу. Апроч таго, сама істота радыё, якая палягае на пераносе гукаў пры помачы электрычнасьці, не дае ніякай падставы думаць, што радыё можа мець які ўплыў на пагоду.

Трэба ведаць, што гэныя каробачкі якія цяпер можна знайсьці нават у самых глухіх кутках нашае бацькаўшчыны, пры помачы каторых можна чуць голас чалавека на сотні і тысячы кілёмэтраў, гэта-ж нішто іншае, як толькі апараты для прыманьня, хапаньня электрычнасьці, вытваранай недзе далёка, на гэтак званых надаўчых станцыях. Электрычнасьць гэная, якую вытвараюць надаўчыя станцыі, даволі сільная, як для рукі чалавека, але сіла яе нішто ў параўнаньні з сілай таго электрычаства, якое вытвараецца штодня ў натуры і якое мы бачым у постаці маланкі

і чуем як грымот. І калі гэтае электрычаства маланак, электрычаства аграмаднай сілы можа мець толькі вельмі нязначны ўплыў на пагоду, то гэнае слабое ў параўнаньні з ім электрычаства надаўчых радыёстанцый, на пагоду ўплыву ніякага мець ня можа. І не ад радыё гэная дрэнная пагода. Радыё рэч карысная і патрэбная людзям. Праз радыё вы можаце чуць музыку, песьні, праз радыё можаце слухаць лекцыі аб землярobстве, радыё прыносіць штодня сьвежыя весткі з усяго сьвету, радыё гэта газэта і адначасна школа. І кожнаму з нашых чытачоў ад шчырага сэрца радзім, ня чурацца гэтага вельмі карыснага людзям вынаходу, ведаючы што радые ня вораг, а прыяцель людзей.

# Апошнія навіны.

**Нямеччына. Новы ўрад.** Социялістаму Мюллеру ўдалося ўрэшце стварыць хаця ня поўны ўрад. Думка стварэньня вялікай коаліцыі не ўдалася. Нямецкая народная партыя адмовілася ўвайсьці ў такі ўрад, з прычыны розьніцы пагляду на праграмму новага ўраду. Тады Мюллер приступіў да стварэньня ўраду з адзінак, пакідаючы думку вялікай коаліцыі. Урад такі будзе складацца з людзей, уваходзячых у ўсе партыі апрача нацыяналістых. Аднак за іх партыі не біруць адказнасьці.

**Амэрыка. Новы проціўваенны проект.** Амэрыканскі міністар заграничных справаў даручыў дзяржавам Эўропы проект процiў ваеннага дагавору. Галоўныя пункты новага проекту наступныя:

1. Стороны падпісваючыя дагавор заяўляюць урачыста ад імя сваіх народаў, што ня будуць паслугоўвацца пры вырашэньні міжнародных канфліктаў ваеннымі сродкамі, і выракаюцца вайны як інструмэнту нацыянальнай палітыкі ў узаемных адносінах.

2. Стороны згаджаюцца, што рэгуляваньне і вырашэньне ўсяляких выникшых між імі канфліктаў, якой кольвек натуры бяз розьніцы іх паходжаньня, даконваныя будуць ня інакш, як толькі мірным шляхам.

Проект амэрыканскі даручаны наступным дзяржавам: Францыі, Англіі, Бэльгіі, Чэхаславацыі, Нямеччыне, Італіі, Японіі і Польшчы.

**Літва. Польска-літоўскія перагаворы.** Польская дэлегацыя для перагавораў з Літвой, на чале якой стаіць начальнік Голувко выехала ў Коўна.

27 чэрвеня г. г. прыбыла ў Варшаву літоўская дэлегацыя на конфэрэнцыю ў справах гаспадарча-транзытных. На чале літоўскай дэлегацыі стаіць Заўніус.

Як паведамляюць з Коўна, Літоўскае Міністэрства Заграничных Справаў апрацавала свой контрпраект дагавору аб ненападаньні, які будзе даручаны польскай дэлегацыі на адным з першых паседжаньняў у Коўне.

**Аўстрыя. Працэс Бэла-Куна.** 26 чэрвеня пачаўся ў Вене працэс вядомага вэнгерскага камуністага Бэла-Куна, арыштованага ў Вене. На пытаньне ці пачуваецца да віны, ён заявіў, што не. Аб прычыне прыезду ў Аўстрыю Бэла-Кун сказаў, што беспасярэдняй прычынай было пісьмо аднаго з яго таварышоў, які пісаў, што Вэнгрыя маніцца заключыць тайны дагавор з Італіяй, і што вэнгерскі гэнэральны штаб апрацаваў плян, у якім знаходзяцца канкрэтныя даныя ў справе злучэньня Вэнгрыі з Італіяй. Гэтыя пляны змусілі Бэла-Куна заняць адпаведнае становішча, каб не дапусьціць да новай імпэрыялістычнай вайны скіраванай процiў С. С. С. Р. Пасьля Бэла-Кун заявіў, што ён ня меў ніякай сувязі з аўстрыяцкімі камуністымі. Прамову Бэла-Куна некалькі разоў перарываў старшыня суда і напамінаў, каб ён адказваў на пытаньні, а не гаварыў неадказнай хлусьні, якой ніводзін здаровы чалавек ня можа паверыць.

**Уратаваньне гэн. Нобіле.** Швэдзкаму лятуну Люндборгу ўдалося спусьціцца ў абоз Нобіле і яго таварышоў. Ён забраў гэн. Нобіле і адвёз на італьянскі параход. Гэн. Нобіле мае зламаную нагу.

Калі лятун паляцеў другі раз, каб забраць таварышоў Нобіле, з ім здарылася няшчасьце, разьбіўся самалёт і ён сам астаўся на лёдзе разам з таварышамі гэн. Нобіле.

**Кітай.** Гэн. Чанг-Тсо-Лін памёр ад аднесеных падчас замаху на цягнік ранаў. Наступнікам выбраны яго старшы сын.

**Японская карная экспэдыцыя.** Японская карная экспэдыцыя збамбардавала ў правінцыі Шантунг шэраг кітайскіх вёсак. 9 вялікіх кітайскіх вёсак зьнішчана цалком. Забіта болей чым 20 асоб, цяжка ранена 40. Выбітнейшыя мясцовыя грамадзяне былі японцамі расстрэлены.

**Францыя. Стабілізацыя францускага франка.** 25-га чэрвеня апублікованы тэкст закону аб стабілізацыі франка. Такім чынам закон увайшоў у жыцьцё. Будуць выпушчаны новыя монэты 5 і 10 франковыя. Пачнецца вымена папяровых банкнотаў на золата.

Стабілізацыя валюты ёсьць заслугай ураду Пуанкарэ. Заслугу гэтую аценіў францускі народ, выбіраючы падчас выбараў у парлямэнт староньнікаў ураду Пуанкарэ.

**С. С. С. Р.** Ад пэўнага часу Расея сталася прыпынішчам для камуністаў-уцекачоў з розных дзяржаваў Заходняе Эўропы. Савецкі ўрад апякуецца гэтымі ўцекачамі, даючы ім пасады ў савецкіх прадпрыемствах і інстытуцыях, дае ім поўныя палітычныя правы. Такая сытуацыя выклікае пратэсты з боку расейскіх работнікаў.

**Безрабоцьце ў С. С. С. Р.** Народны Камісар Працы Шмідт заявіў на пленарным паседжаньні Галоўнай Рады савецкіх прафэсіянальных Саюзаў, што лік безработных праверaны праз біржу працы на цэлым абшары С. С. С. Р. раўняецца 2.400.000 асоб. 1-га студня г. г. было 2 мільёны безработных, а 1-га кастрычніка 1927 г. 1.500.000 асоб.

Такім чынам нават афіцыяльныя даныя сьцьвярджаюць узрост безрабоцьця і то вялікі. Ад 1 кастрычніка 1927 г. да 1 чэрвеня 1928 г. страціла працу 900.000 работнікаў. Сапраўды безрабоцьце большае.

**Польшча. Міжнародны Кангрэс Міру ў Варшаве.** 25 чэрвеня г. г. пачаўся ў Варшаве Кангрэс Міру. На кангрэс зьехаліся дэлегаты з усіх амаль дзяржаваў. Зьезд адчыніў б. мін. Тугутт.

Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3